# НЯХАЙ ЖЫВЕ 22 VII-СВЯТА АДРАДЖЭННЯ ПОЛЬШЧЫ!


# НІВА

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БГКТ

№ 30 (543) 24 ЛІПЕНЯ 1966 г. Цана 60 гр


## У МІНСК ПА ВЕДЫ

*Пачынаючы ад 1958 года штогод выяздже з Беласточчыны ў Мінск група настаўнікаў са школ, у якіх навучаецца беларуская мова, на месячны курс беларускай мовы і літаратуры. Пры аказіі настаўнікі знаёмяцца з гаспадарчым і культурным жыццём БССР. У гэтым годзе ў сталіцу Савецкай Беларусі выехала 19 настаўнікаў беларускай мовы. На здымку: Настаўнікі на беластоцкім вакзале перад ад'ездам у БССР. (п)*





## МІТЫНГ ДРУЖБЫ

З аказіі 25 гадавіны нападзення нямецкіх захопнікаў на СССР на польска-савецкай мяжы ў Баброўніках адбыўся ў чэрвені шматтысячны мітынг насельніцтва Беласточчыны і Гродзеншчыны. Мітыгн спалучаны быў з адкрыццём помніка на магіле савецкіх салдат загінуўшых у барацьбе з фашысцкімі войскамі ў чэрвені 1941 года. З прадстаўнікоў польскіх улад ва ўрачыстасці прынялі ўдзел: I сакратар Павятовага камітэта ПАРП Аляксандр Камінскі і старшыня Прэзідыума ПРН у Беластоку Ян Вальчук.

З савецкага боку былі: намеснік старшыні Абласнога савета ў Гродне Сяргей Александравіч Пронька і сакратар раённага камітэта КПСС у Свіслачы — Дзімітр Канстанцінавіч Арцыменя. З прамовамі ў час урачыстасці выступілі: сакратар КП ПАРП А. Камінскі, а наступна госці з СССР: Сяргей Пронька, Дзімітр Арцыменя і прадстаўнік Савецкай Арміі — Васілі Фёдаравіч Даніловіч. (п)




Ля помніка савецкіх салдат загінуўшых над Свіслаччу ў 1941 годзе.

Фота С. Гаек

## 22 гады таму

22 гады таму хутка пасоўваючыеся атрады Чырвонай Арміі і Адроджанага Войска Польскага разграмілі групіроўкі гітлераўскай арміі «Цэнтрум», якія налічвалі звыш мільён салдатаў, і ўвайшлі на тэрыторыю Беластоцкай Зямлі. Пасля некалькіх дзён зацятай барацьбы ў раёне Белавежскай пушчы і Кляшчэляў было зломана супраціўленне непрыяцеля і 22 ліпеня гітлераўцы былі выгнаны з Гайнаўкі — пакідаючы адначасова мясцовасці Боцькі і Кленікі. 27 ліпеня 1944 года быў вызвалены Беласток, а тры дні пазней свабода завітала і ў Бельск - Падляшскі. Змагаліся тут атрады 65-ай Савецкай Арміі наступаючы ад Брэста. У пачатку жніўня былі ачышчаны ад фашыстаў надбужанскія аколіцы: Драгічын і Цехановец.

Фашысцкія войскі, уцякаючы, зрывалі масты, палілі вакзалы і чыгуначныя пуці, вёскі і гарады, здзекваліся над мірнымі жыхарамі. На тэрыторыі Бельскага павета былі поўнасцю знішчаны тры вёскі і 4 тыс. гаспадарстваў. Праз 150 вёсак прайшло знішчальнае полымя акупацыі — часткова знішчаных было звыш 12 тыс. гаспадарстваў. Найбольшыя страты панеслі гміны: Бранск, Нараўка, Мельнік, Орля і Вышкі. Акупант размантоўваў і вывозіў у Германію абсталяванні прамысловых прадпрыемстваў, дэманціруючы фабрыкі ў Гайнаўцы і меншыя прадпрыемствы ў Бельску.

Маладая народная ўлада прыйшла на руіны і папялішчы, стоячы перад цяжкім заданнем сарганізавання новага жыцця. Накіраваныя ўпаўнаважаным ПКВН на Беластоцкую Зямлю маёрам Леанардам Барковічам у першых днях жніўня прыехалі ў Бельск, між іншым: Міхал Джэвецкі, Антон Рошка і Раман Возняк. Пасля прыбыцця на тэрыторыю павета, які ў той час ахопліваў плошчы частак сённяшніх паветаў: Гайнаўскага і Сямяціцкага — навязалі кантакты з мясцовымі дэмакратычнымі дзеячамі, а асабліва былымі членамі Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі — прыступаючы адначасова да паклікання Гмінных рад нарадовых і солтысаў, а таксама арганізацыі гмінных установ. Да канца жніўня ва ўсіх ужо гмінах дзейнічалі ўстановы, выбрана таксама гмінныя рады.

29 жніўня на сходзе дэмакратычных дзеячаў выбрана была Павятовая рада нарадовая, якая складалася з 37 асоб, старшынёй якой быў выбраны мгр Вінцэнты Гэрманоўскі, старастай быў выбраны падпаручнік Міхал Джэвецкі, а яго намеснікам — падпаручнік Пэтолец. Найважнейшай справай для органаў маладой улады было забяспечанне належнага дзейнічання сельскай гаспадаркі.

Патрабавала гэта неадкладнай дапамогі з боку дзяржавы, а становішча было на толькі сур'ёзным, што 25% збожжа засталося на карані, у полі знішчана многа ў час ваенных дзеянняў. У 50% былі знішчаны гаспадарчыя забудаванні бельскай вёскі. У гэты так цяжкі перыяд маладая народная ўлада прышла з дапамогаю сялянам павета даючы 5 тыс. 600 кубічных метраў дзерава і паўтара мільёна злотых крэдыту. Прыступілі таксама да прывядзення ў рух прамысловасці — тартаку і хімічнай

(Працяг на стар. 4)

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### ВЫСТУПЛЕННЕ ДЭ ГОЛЯ

Прэзідэнт Францыі дэ Голь асудзіў в'етнамскую вайну. «Францыя асуджае гэту вайну», — сказаў дэ Голь, выступаючы на абедзе ў гонар караля Лаоса, які знаходзіўся ў Францыі з візітам. «Цяпер, — сказаў дэ Голь, — насельніцтва Паўночнага і Паўднёвага В'етнама з'яўляецца ахвярай палітыкі падаўлення, якае з кожным днём расце і якое можа быць вынікам толькі страты, разбурэння і нянавісці ў гэтым раёне».

«Такое трывожнае становішча, — заявіў дэ Голь, — драматычным чынам датычыць Лаоса, падвяргаючы небяспецы яго цэласнасць, адзінства і сродкі да існавання. З другога боку, яна датычыць Францыі, якая з дружалюбнай увагай сочыць за лёсам народа былога Індакітая».

### БУДУЦЬ БАЙКАТАВАЦЬ

Новая групіроўка, якая аб'ядноўвае ў сваіх радах рэлігійных і палітычных працаўнікоў паўднёвав'етнамскай кіруючай ваеннай хунты, заявіла, што яна будзе байкатаваць «усеагульныя выбары», якія маюць адбыцца. У сумеснай заяве абвінавачваюць яны ўрад, які ўзначальвае генерал Кі, у тым, што ён ідзе па шляху ўстанаўлення ваеннай дыктатуры. Яны заклікалі народ Паўднёвага В'етнама «адхіліць і байкатаваць выбары ва ўстаноўчы сход, якія арганізуюцца ўрадам Нгуен Као Кі». Выбары ва ўстаноўчы сход Паўднёвага В'етнама назначаны на 11 верасня г. г.

### ГДР...

...адносіцца да 10 найбольш прамысловых краін свету. У 1950—1960 гадах валавая прамысловая прадукцыя ГДР узрасла на 291%. Ад 1964 года гадавая прадукцыя ў ГДР выносіла больш, чым прадукавала цэлая Германія на абшары ў чатыры разы больш, хаця ў выніку вайны знішчана 70% прадукцыйнай моцы промыслу на тэрыторыі ГДР.

### ГРАМАДЗЯНСКАЯ АБАРОНА НА КУБЕ

На Кубе створаны Нацыянальны савет грамадзянскай абароны на чале з прэзідэнтам рэспублікі Асвальда Дарцікосам Тарада. Дзеля гэтага быў выданы закон «аб арганізацыі грамадзянскай абароны Рэспублікі Куба». У адпаведнасці з гэтым законам ствараецца грамадзянская абарона Рэспублікі Куба на базе каардынаванага ўдзелу ўсіх дзяржаўных органаў і арганізаваных сіл народа, кіруемых Камуністычнай партыяй Кубы. Грамадзянская абарона рэспублікі ствараецца ў дапаўненне да ўзброеных сіл краіны з мэтай стварэння ўмоў для адбіцця любой ваеннай агрэсіі, а таксама для дзеянняў ва ўмовах стыхійных бедстваў.

### КОЛЬКАСЦЬ КАМУНІСІТАЎ І КАМСАМОЛЬЦАЎ У ІТАЛІІ

Да пачаткаў чэрвеня г. г. у радах Італьянскай камуністычнай партыі налічвалася 1 541 779 чалавек, а ў Італьянскай федэрацыі камуністычнай моладзі — 174 064 чалавекі.

## БССР

### «ВОЖЫК» СВЯТКУЕ ЮБІЛЕЙ

Папулярны сатырычны часопіс «Вожык» адзначыў сваё 25-годдзе.

6 ліпеня, у клубе журналістаў Мінска адбыўся вечар, прысвечаны гэтай даце. Яго адкрыў народны пісьменнік Беларусі Кандрат Крапіва. Аб шляху, пройдзеным «Вожыкам», расказаў галоўны рэдактар П. Н. Кавалёў.

У мастацкім музеі БССР адкрылася выстаўка сатырычнага малюнка «Вожыка» — 25 гадоў». На ёй сабрана некалькі соцень малюнкаў розных гадоў.

### ДНІ МАНГОЛЬСКАЙ КУЛЬТУРЫ

У Беларусі праводзяцца Дні мангольскай культуры. 6 ліпеня ў Мінскім доме мастацтваў адбылося адкрыццё народнай творчасці МНР.

### НА ВОЗЕРЫ НАРАЧ

12 і 13 ліпеня на возеры Нарач праходзіла свята працы і воінскай славы. Яно было прысвечана 50-годдзю Кастрычніка і 22-й гадавіне вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сюды, да «Беларускага мора», прыбылі госці з брацкай Літвы, шмат якіх раёнаў Мінскай, Гродзенскай, Віцебскай абласцей, замежныя студэнты, якія займаюцца ў ВНУ Мінска.

### ВЫПУСК КАНСЕРВАЎ

Харчовыя прадпрыемствы мясцовай прамысловасці Мінскай вобласці выпусцілі першую партыю кансерваваных працёртых і пастэрызаваных чарніц. Гэты від прадукцыі ўпершыню асвоен сёлета. Сёлета ж таксама будуць выпускацца пастэрызаваныя чырвоныя парэчкі і журавіны з цукрам, джэм з агрэсту і таматы ва ўласным соку.

### ЭНЕРГЕТЫЧНЫЯ АРТЭРЫІ

Закончаны выпрабаванні пад нагрузкай дваццаці пяцікіламетравай высакавольтавай лініі электраперадачы Калінкавічы — Баброўічы. Увод яе ў дзеянне дазволіць поўнасцю забяспечыць электраэнергіяй горад Мазыр і шмат якія калгасы і саўгасы Калінкавіцкага і Мазырскага раёнаў.

### ГРОДНА — ТАШКЕНТУ

Калектывы гродзенскіх заводаў і фабрык паспяхова выконваюць заказы ўзбекскіх братоў. Датэрмінова паставілі ташкентцам вырабы рабочыя і служачыя швейнай фабрыкі. У лік чацвёртага квартала адгружае пасудамыечныя машыны і прыборы для прадпрыемстваў грамадскага харчавання Ташкента калектыў завода гандлёвага машынабудавання. У лік жніўня адпраўляюць сваю прадукцыю абутнікі фабрыкі «Нёман».

### ПАМЯЦІ ВЫДАТНАЙ ПАЭТЭСЫ

У рэспубліцы адзначаецца 90-годдзе з дня нараджэння выдатнай беларускай паэтэсы — рэвалюцыянеркі Цёткі (Алаізы Пашкевіч).

У клубе Саюза пісьменнікаў Беларусі 15 ліпеня адбыўся вечар, прысвечаны гэтай даце. Ва ўступным слове сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі Янка Брыль адзначыў, што творчасць Цёткі працягвае жыць у народзе і сёння.

З дакладам аб жыццёвым і творчым шляху Цёткі выступіла кандыдат філалагічных навук Лідзія Арабей.

У Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя Ул. І. Леніна адкрылася выстаўка, прысвечаная 90-годдзю з дня нараджэння паэтэсы. На ёй прадстаўлены яе творы, крытычныя артыкулы беларускіх літаратуразнаўцаў, успаміны, публікацыі аб невядомых вершах і іншыя матэрыялы.

## ПОЛЬШЧА

### НАРАДА Ў КЦ ПАРП

13. VII. адбылася ў КЦ ПАРП пад кіраўніцтвам сакратара КЦ Балеслава Яшчука нарада эканамічных сакратароў Ваяводскіх камітэтаў партыі прысвечаная абмеркаванню гаспадарчых вынікаў І паўгоддзя, а таксама планам на 1967 і 1969 гады.

Член Палітычнага Бюро ЦК партыі і старшыня Камісіі планавання пры Радзе міністраў Стэфан Ендрыхоўскі ў сваім выступленні на нарадзе звярнуў увагу на шэраг станоўчых і адмоўных рысаў у нашай гаспадарцы, а таксама на асноўныя заданні II паўгоддзя.

### НОВЫЯ ПРАДПРЫЕМСТВЫ

Напярэдадні свята Адраджэння рабочыя пераказалі да карыстання шмат важных новапбудаваных прамысловых аб'ектаў.

12. VII. пераказана ў карыстанне паперніча-цэлюлозны камбінат у Астралэнцы. Ва ўрачыстасці пераказання прынялі ўдзел члены найвышэйшых партыйных і дзяржаўных улад са старшынёю Рары Дзяржавы Э. Охабам на чале. З прамоваю выступіў Э. Охаб, які падзякаваў будаўнікам за вялікі ўклад працы ў будову камбіната, а таксама падкрэсліў вялікае яго значэнне для гаспадаркі ўсяе краіны, а асабліва Курпёўшчыны.

16. VII. Будаўнікі азотнавага камбіната ў Пулавах найбольшай у Еўропе інвестыцыі на патрэбы сельскай гаспадаркі пераказалі да эксплуатацыі важны аб'ект гэтага камбіната званы II «Нітка». Ва ўрачыстасці пераказання прыняў удзел Уладзіслаў Гамулка. Выступіў ён з прамоваю, у якой, між іншым, выказаўся на тэму асноўных праблем сучаснай міжнароднай абстаноўкі.

З іншых важных аб'ектаў пераказана да карыстання новую газоўню ў Познані, якая будзе даваць 240 кубічных метраў газу ў суткі, новую батарэю каксоўні «Радлін» у Рыбніку і шэраг іншых гаспадарчых мерапрыемстваў.

### ДАРОЖНЫЯ НЯШЧАСЦІ

Міністэрства камунікацыі падсумавала страты панесеныя ў выніку няшчасных выпадкаў ў мінулым 5-гаддзі. Агульная сума матэрыяльных страт сягае паўмільярда злотых. Знішчана 117 аўтобусаў, 800 грузавых самаходаў, звыш 1000 самаходаў асабовых і крыху менш матацыклаў. Адначасова сур'ёзна папсавана 5,7 тыс. аўтобусаў, 21 тыс. грузавікоў і 27 тысяч самаходаў асабовых. У адным толькі 1965 годзе ПЗУ выплаціў 287 тысяч злотых адшкадавання за страты, якія ўзніклі ў выніку дарожных выпадкаў.

### КОЛЬКІ МІЛЬЁНАЎ ГОД?

Археалагічны музей у Лодзі, як адзіны ў краіне, мае апарат, якім мерыцца век розных знойдзеных даўніх прадметаў. Робіцца гэта метадам распаду радыёактыўнага вугля С-14. Як гэта выглядае? Маеце прадмет, хочаце ведаць колькі яму год ці мільёнаў год. Дробны кусок гэтага прадмета спаляеце, з атрыманага двуокісю вугля $CO_2$ праз розныя рэакцыі атрымліваеце этылабензен. Яго даследваць лічнікам, які пакажа сілу праменявання. Тады пачынае працу складаная электронная апаратура, якая пералічыўшы ўсё, падае час, з якога прадмету выводзіцца. (вл)

## ВАЯВОДСТВА

### ПЕРАД 22 ГАДАВІНАЙ ВЫЗВАЛЕННЯ

16. VII. з аказіі 22 гадавіны вызвалення адбыўся ў Гайнаўцы мітынг. Прыняў у ім удзел Васіль Манаевіч Сфарэнка, бацька Героя Савецкага Саюза, які загінуў у час баёў за вызваленне Гайнаўшчыны. У мітынгу прынялі таксама ўдзел І сакратар КП ПАРП Міхал Недзведзь і старшыня Прэзідыума ПРН Аляксандр Хіпецкі. На заканчэнне мітынгу былі складзены вянкі на могільніку салдат загінуўшых у час II сусветнай вайны. Знайшоўся сярод іх вянок камсамольцаў з Пензы. 17. VII. падобны мітынг перад помнікам загінуўшых у час II сусветнай вайны адбыўся ў Белавежы.

Беласточчына прыняла актыўны ўдзел ў падрыхтоўцы да агульнадзяржаўнага свята Адраджэння. 21 ліпеня адбылося ўрачыстае пасяджэнне Ваяводскай, Гарадской і Павятовай радаў нарадовых у Беластоку. Падобныя ўрачыстасці адбыліся ў паветах, гарадах і грамадах ваяводства. На цэнтральныя ўрачыстасці ў Варшаве выехала 750 асабовая група дэлегатаў беластоцкай моладзі. (п)

### НАЙСТАРЭЙШЫМ

«Пазнаем краіну і дасягненні Народнай Польшчы» — пад такім лозунгам гайнаўскі ПЗГС сарганізаваў чатырохдзённую турыстычна-краязнаўчую экскурсію для сарака найстарэйшых жыхараў павета. Перш за ўсё наведалі яны сталіцу, дзе аглядалі, між іншым, гмах Сейма, Палац культуры і навукі, прадпрыемства, «Урсус», музеі і заапарк. У паваротнай дарозе ўдзельнікі экскурсіі наведалі прадпрыемствы Замброва і Беластока.

Наймалодшай удзельніцай экскурсіі была Агата Карпюк з Капітаншчыны, якой ужо 86 гадоў, найстарэйшым — Юзэф Смактуновіч з Нарвы, якому 92 гады.

### ЖНІВО

Пачалося ўжо ў ваяводстве жніво. Сельскагаспадарчыя гурткі накіравалі да жніўнай акцыі 2500 трактараў, 1600 жняярак, 1200 плугоў і 2200 агрэгатаў. Лікі гэтыя з'яўляюцца на 20% большымі, чымсьці ў мінулым годзе.

Рыхтуючыся да жніва, павятовыя саюзы сельскагаспадарчых гурткоў правялі ў чэрвені шкаленне абслугі: дыспазітараў, трактарыстаў, «амлатовых».

### КАНФЕРЭНЦЫІ САМАЎПРАЎЛЕННЯЎ

У беластоцкіх прадпрыемствах пачаліся сесіі канферэнцый рабочага самаўпраўлення над праектамі планаў на 1967 год.

### ПЕРАДАВЫЯ

Падпіска газет у многім залежыць ад пісьманосцаў. Калі пісьманосец пастараецца да яе заахвоціць сялян, дык рост у падпісцы той ці іншай газеты ёсць даволі вялікі.

Такіх пісьманосцаў мае таксама «Ніва». Да найлепшых яе прапагатараў залічваецца Уладзімір Гуралеўскі з Рыбалаў у Бельскім павеце і Аляксандр Сахарчук з Кленік у Гайнаўскім павеце. Першы ў сваім паштовым раёне мае 145 падпісчыкаў «Нівы», а другі — 130.

Вось каб так кожны пісьманосец меў не менш як 100 падпісчыкаў, тады тыраж «Нівы» акрэсліваўся б дзесяткамі тысяч падпісчыкаў і прадукцыя яе не была б дэфіцытовай. (мх)

# Тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія

**PONIEDZIAŁEK 25. VII.**

17.30 Program dnia; 17.35 „Reportaż z CDT"; 17.45 Wiadomości dziennika TV; 17.50 „Klakson" — mag. motoryzacyjny; 18.10 Kino Krótkich Filmów; 18.40 Magazyn Postępu Technicznego; 19.10 Dobranoc; 19.20 Mistrzostwa Świata w piłce nożnej; ok. 20.15 Dziennk TV; 21.30 III TV Festiwal Teatrów Dramatycznych. „Przepióreczka" St. Żeromskiego.

**WTOREK 26. VII.**

10.00 „Umarli milczą" — film fab. NRD cz. I; 11.30 Przerwa; 17.35 Program dnia; 17.40 Wiadomości dziennika TV; 17.45 Dla młodych widzów: „W słowiańskim grodzie"; 18.05 Informator handlowy; 18.15 „Śpiewa Edward Lubaszenko" — program rozrywkowy; 18.35 Wszechnica TV: „Spacerkiem po Krakowie"; 19.10 Dobranoc; 19.20 Mistrzostwa Świata w piłce nożnej; 21.15 Dziennik TV; 21.30 „Umarli milczą" — film fab. NRD cz. I.

**SRODA 27. VII.**

10.00 „Umarli milczą" — film fab. NRD cz. II; 11.30 Przerwa; 17.30 Program dnia; 17.35 PKF; 17.45 Wiadomości dziennika TV; 17.50 Dla młodych widzów: „Kpt. Tenkesz" — film; 18.15 „Arcydzieła muzyki prezentuje Leonard Bernstein"; 18.50 Wszchnica TV: „Sztuka użytkowa"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 TV Kurier Warszawski; 20.15 „Umarli milczą" — film fab. NRD cz. II; 21.55 „Światowid"; 22.20 Dziennik TV.

**CZWARTEK 28. VII.** 2

17.50 Program dnia; 17.55 Wiadomości dziennika TV; 18.00 „Nie tylko dla pań"; 18.20 „Kino amatorskich filmów"; 18.45 „Miniatury"; 19.20 Mistrzostwa Świata w piłce nożnej. Mecz o III i IV miejsce; w przerwie ok. 20.15 Dziennik TV; 21.30 Teatr Sensacji: Andrzej Zbych — „Stawka większa niż zycie" odc. III — „W pułapce".

**PIĄTEK 29. VII.**

17.25 Program dnia; 17.30 „Na zdrowie"; 17.50 Wiadomości dziennika TV; 17.55 „Świat, który nie może zginąć" — film (Katowice); 18.20 Wszechnica TV: „Na Placu Teatralnym"; 18.50 Program publ. (Wrocław); 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Śpiewają Isabella Janetti i Nini Rosso" — film wł.; 20.15 III TV Festiwal Teatrów Dramatycznych. „Śniadanie na trawie"; 21.15 „Dobry wieczór, jak minął dzień"; 21.45 „Wózek" — film („Dzień ostatni, dzień pierwszy"); 22.15 Dziennik TV.

**SOBOTA 30. VII.**

10.00 „Długa noc" — film fab. USA od lat 16; 11.30 Przerwa; 14.15 Program dnia; 14.50 Mistrzostwa Świata w piłce nożnej; 15.45 Program tygodnia; 17.00 Wiadomości dziennika TV; 17.05 Dla młodych widzów: „Rabunek w biały dzień" — film ang.; 18.00 Dla młodych widzów: „Liga Entuzjastów Wakacji"; 18.30 „Po szósej" — młodzieżowy Klub TV; 19.10 „Lekcja rysunków" — rep. film.; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.00 „Romans pani Majstrowej", komedia W. Rapackiego; 21.20 Dziennik TV; 21.35 Wiadomości sportowe; 21.45 „Długa noc" — film fab. USA od lat 16.

 

# -ЯЧНА-

**Ячна — гэта невялікая вёска ў Дуброўскім павеце. Тут усяго каля 40 хат. Паўстала Ячна, праўдападобна, у XVI стагоддзі ў час засялення т. зв. Навадворскай пушчы. Засялялі гэтую пушчу беларусы — праваслаўныя і каталікі. Жывуць яны тут перамешаныя з сабою па сённяшні дзень. У Ячне каля 60% праваслаўных і каля 40% — каталікаў. І адны і другія карыстаюцца на штодзень амаль абсалютна чыстай беларускай мовай, а ў нядзелю, свята і ў час розных сямейных урачыстасцей спяваюць беларускія песні. Захоўваюць многія старыя беларускія звычаі і абрады. Усе жыхары Ячна, як і суседніх вёсак Дуброўшчыны, жывуць з сабою згодна, і — агульна беручы — любяць сусед суседа і шануюць.**

## ПЕРШЫЯ ГАДЫ

Першыя гады пасля вызвалення былі для Ячна, як і для іншых нашых вёсак, вельмі цяжкімі. У вёску часта заглядалі банды рэакцыйнага падполля, два разы падпальвалі нават вёску, ад чаго згарэла 5 будынкаў. Жыхары Ячна аднак сыграна ўзяліся за адбудову ваенных знішчэнняў. Неўзабаве ў Ячне пачынае развівацца грамадскае і культурнае жыццё. У 1949 годзе як першы ў аколіцы засноўваецца гуртох ЗМП. Моладзь з усім сваім юнацкім энтузіязмам уключаецца ў рытм вялікай агульнадзяржаўнай палітыкі, дыскутуе на ідэалагічныя, палітычныя і гаспадарчыя тэмы, чытае кніжкі і газеты. Неўзабаве пасля вызвалення сарганізавана ў Ячне пажарную каманду, у 1949 годзе мясцовыя дзяўчаты сарганізавалі курс кройкі і шыцця, які закончыла 17 краўчых.

У гэтыя пасляваенныя гады вёска цікавіцца ўсім: газетай, радыё, спортам. Калі ў Ячне паяўляецца валейбольны мяч, гуляць у валейбол пачынае не толькі моладзь, але і старэйшыя жыхары вёскі. Гуртох вясковых гаспадынь арганізуе сярод жанчын дыскусіі і гутаркі на розныя тэмы з жыцця вёсак, краіны і свету, праз некалькі гадоў у летнія месяцы арганізуюцца для дашкольных дзяцей дзіцячыя сады.

Такімі былі ў Ячне гэтыя першыя гады поўныя цяжкасцей і энтузіязму.

## ДОМ КУЛЬТУРЫ

Кожнаму, хто прыедзе ў Ячна, кідаецца ў вочы перад усім вялікі і прыгожы Дом культуры размешчаны пасярэдзіне вёскі. Месціцца ў ім клуб, святліца, бібліятэка, крама. Пабудавана Дом культуры ў Ячне ў 1963 годзе. А было гэта так:

Клубнае жыццё ў Ячне пачалося яшчэ ў саракавыя гады. Мясцовае кола ЗМП за сваю актыўную дзейнасць некалькі разоў атрымлівала ад улад светліцовае абсталяванне. У 1950 годзе Ячне пераказана радыёпрыёмнік, светліцовыя сталы, крэслы і шафы. На ўрачыстасць перdesignазання абсталявання прыехаў з Беластока сам ваявода. Дзякуючы добразычлівасці настаяцеля мясцовага праваслаўнага прыхода — Яна Кшэмінькага святліца размясцілася ў памяшканні прыхадской плебаніі.

Адначасова пачаліся захады адносна пабудовы будынка святліцы. Будова працягвалася звыш 10 гадоў. Распачалася яна грамадскім чынам, але грамадскім чынам усяго ж не зробіш! Тут патрэбны грошы. І толькі тады, калі Ячна атрымала фінансавую падтрымку з павета, будова хутка рушыла наперад, а зусім закончылася ў 1963 годзе. Зараз ячнаўскі Дом культуры з'яўляецца адной з найпрыгажэйшых такога рода інвестыцый у ваяводстве. Канцэнтруецца ў ім усё культурнае і грамадскае жыццё Ячна: тут чытаюць газеты, слухаюць радыё, адбываюцца сустрэчы з пісьменнікамі і цікавымі людзьмі Беласточчыны, прыязджаюць аматарскія калектывы з суседніх вёсак.

## АЛЯКСАНДР КАЛЕНІК

«Нарадзіўся ў Ячне, вучыўся ў Палітэхнічным інстытуце ў Варшаве, у Ячне жыве і працуе, піша вершы», — так можна было б схарактарызаваць Аляксандра Каленіка, калі б схарактарызаваць яго трэба было ў некалькіх словах. Мы аднак можам дазволіць сабе на крыху шырэйшую характарыстыку намесніка старшыні мясцовага аддзела БГКТ і кіраўніка мясцовай святліцы. І таму аб Аляксандру Каленіку некалькі сказаў:

Бацька Аляксандра Каленіка — Парфен Каленік у час савецкай улады на Беласточчыне быў загадчыкам школы ў Гродне. У час гітлераўскай акупацыі жыў у Ячне, супрацоўнічаў з савецкімі партызанамі, за што быў арыштаваны і замардаваны нямецкімі фашыстамі. Асталася па бацьку багатая бібліятэка, з якой сын, Аляксандр, вучыўся роднай мовы і ведаў аб свеце.

Калі пасля вызвалення акалічным вёскам дакучаць пачалі рэакцыйныя банды, Аляксандр Каленік арганізуе мясцовую моладзь да самаабароны перад бандыцкімі нападамі на вёску. У пачатку пяцьдзесятых гадоў арганізуе сяроді мясцовай моладзі гуртох ЗМП, а наступна выязджае на падрыхтоўчы курс, пасля чаго паступае ў палітэхніку. Там Аляксандр Каленік вучыўся два гады — сямейныя клопаты, а перад усім адсутнасць усялякай апекі і дапамогі старой ужо маці, прымусілі Каленіка пакінуць палітэхніку, вярнуцца ў Ячна і заняцца гаспадаркай. Ад студзеня 1966 года з'яўляецца ён кіраўніком мясцовай святліцы, а ад лютага 1966 г. намеснікам старшыні праўлення аддзела БГКТ у Ячне і членам Галоўнага праўлення БГКТ.

Папрасілі мы Аляксандра Каленіка расказаць сёе-тое аб Ячне, аб яго мінулым і сучаснасці. У адказ наш размоўца падаў тоўсты сшытак у цвёрдай вокладцы з надпісам: «Хроніка 20-годдзя Ячна». Хроніку гэту пісаў Аляксандр Каленік з Ячна, для якога дваццацігоддзе народнай улады было дваццацігоддзем змагання і актыўнай грамадскай працы. Перад усім аднак з гэтай хронікі даведваемся, што рабілася ў Ячне ў першыя гады пасля вызвалення.

## ЯЧНАЎСКІ АДДЗЕЛ БГКТ

У лютым гэтага года аддзел Беларускага грамадска-культурнага таварыства выбраў сабе сядзібу ў Ячне на Дуброўскі павет. Перанясенне аддзела з Дубровы ў Ячна выклікана было тым, што ў аколіцы Ячна размешчана найбольш беларускіх вёсак. Недахопам у працы мясцовага аддзела з'яўляецца тое, што няма тут ніводнага штатнага працаўніка, які на штодзень мог бы цікавіцца справамі таварыства.

Тэкст і фота
**Уладзімір Паўлючук**



**Краявід у раёне Ячна гарысты і разнастайны, быццам на Падкарпацці — захапляе прыезджага сваёй прыгажосцю.**

**НАША АКЦЫЯ — КРЫПТАНІМ „В"**



**Вёска Ячна невялікая — з канца ў канец некалькі крокаў.**



**Характэрнай з'явай Ячна, як і ўсёй Дуброўшчыны, з'яўляюцца пабудаваныя на самай вуліцы калодзежы.**



**...асноўным багаццем вёскі з'яўляецца тытунь. На здымку: жыхары Ячна працуюць пры вырошчванні тытуню.**



**На палях паміж Ячнам і Герасімавічамі знаходзіцца магіла байца - героя, Рыгора Кунавіна, які ўласным целам засланіў фашысцкі кулямёт**



 

 



**НА СУПРАСЛІ**
**У святочныя дні, калі людзі вольныя ад працы, сотні жыхараў Беластока едзе ў Супрасль над рэчку аддыхаць.**
Фота М. Хмялеўскі

Сельская гаспадарка без таямніц

# ХІМІЯ НА ПАЛЯХ (3)

Павелічэнне збору зерня ў бліжэйшыя гады — гэта таксама справа ўгнаення. Гэта яшчэ больш важнае таму, што збожжа (асабліва авёс і жыта) пастаўлены ў канцы севазвароту, калі глеба ўжо ў значнай меры абеднена кармавымі рэчывамі. А вядома ж, што ў 20 ц зерня і 40 ц саломы знаходзіцца 50—60 кг азоту, 30—35 кг фосфару і 55—70 кг калію.

Прымаючы найніжэйшыя дадзеныя, на кожны гектар пасеваў збожжавых раслін трэба выкарыстаць больш 100 кг угнаення ў чыстым рэчыве. Хочучы атрымаць высокі ўраджай, трэба яшчэ павялічыць колькасць угнаення. Вядома, гэта будзе залежыць ад месца ў севазвароце, папярэдняй культуры, часу прымянення гною і яго колькасці, пладароднасці глебы, вырошчваных культур і г. д. Нават вельмі скромныя падлікі паказваюць, што толькі пад збожжавыя культуры на Беласточчыне трэба не менш 600 тыс. мінеральнага ўгнаення ў чыстым рэчыве.

Параўнаўча вялікія патрэбы адчуваюцца на азот. Яго трэба даваць мінімум 50 кг на гектар — найбольш пад пшаніцу — 70 кг/га, пад цукровыя буракі трэба 150 кг азоту, кармавыя буракі — 110 кг, пад сад — 120 кг, пад рапак — 144 кг, бульбу — 90 кг. Шматлікія доследы паказалі, што ў Польшчы 1 кг азоту дае прырост ураджаю каля 10—15 кг зерня збожжа, 70 кг бульбы, 80 кг буракоў. Шмат азоту маюць у сабе мінеральныя ўгнаенні. У кароўім гноі ў сярэднім каля 0,3% азоту. У маштабе Польшчы ў год цяпер мы маем 100 млн. тон гною, а ў 1980 годзе будзе 150 млн. тон. Гэта дазваляе нам цяпер даваць 60 ц гною на гектар, а за 15 год — 90 ц на гектар.

100 ц гною мае ў сабе столькі асноўных кармавых рэчываў, колькі 4,5 ц мінеральных угнаенняў.

100 кг азоту знаходзіцца ў 200 ц гною такой самай колькасці кампосту, 20 тыс. літраў гнойнай жыжкі і 300 кг аміячнай салетры. Сума рэчываў, якія ўваходзяць у склад арганічных і мінеральных угнаенняў, гаворыць аб узроўні ўгнаення.

У сувязі з тым, што ў нашым ваяводстве наглядаецца пастаянны дэфіцыт угнаенняў, можна было б спадзявацца, што гаспадаруем імі планава і ашчадна. На жаль, нельга гэтага сказаць. Вельмі часта бачым на палях гной у кучах або нават параскіданы. Вядома ж галоўнае правіла, што гной павінен быць адразу заараны. Сяляне часта не верыць, што гной так хутка марнуецца ад таго, што ляжыць. Як паказалі дакладныя доследы, гной, які паляжыць 2 дні ў кучах, губляе 30% сваёй вартасці, а праз два тыдні — амаль палавіну. Яшчэ большыя страты ўзнікаюць тады, калі гной параскідаць і не заараць некалькі дзён.

Не адзін раз гной робіцца бязвартасны толькі з-за нядбайнасці гаспадароў.

Нядаўна хімічна - сельскагаспадарчая станцыя ў Беластоку правяла аналізы проб гною. Аказалася, што наш гной мае больш карысных рэчываў, чым сярэднія дадзеныя ў краіне. Аднак вельмі часта яны марнуюцца, асабліва азот, які ў выглядзе аміяку хутка ўлятучваецца.

Каб палепшыць баланс угнаення, трэба больш увагі звярнуць на кампосты пры выкарыстоўванні торфу, вырошчванне раслін на ўгнаенне, сеяць больш матыльковых, вапнаваць глебу, умела прымяняць закупленыя мінеральныя ўгнаенні.

**Інж. М. Сухажэбрскі**

## БУДУЦЬ КАЛЁНІІ

Надаела людзям цераспалосіца. Вузкія і кіламетравыя палоскі не дазваляюць уводзіць на палі сучасных сельскагаспадарчых машын. Таму з вялікай радасцю жыхары Паўднёвага Вострава, Гуран, Астроўка, Піражкоў і іншых вёсак павіталі вестку аб тым, што прыехалі землямеры і адразу прыступілі да работы звязанай з камасацыяй зямлі. Ужо хутка і ў раёне Крынак на Сакольшчыне сяляне будуць мець зямлю ў адным або двух кавалках, як каля Янова, Высокамазавецка, ці Ломжы. (мх)




**ДЛЯ МОЛАДЗІ**

У новым сезоне недзе на пераломе года Беластоцкі тэатр паставіць «Тры белыя стрэлы» — чэхаславацкую п'есу для моладзі. Будзе яна зрэалізавана на аснове уэстэрна для дзяцей і моладзі. Акцыя на сцэне будзе адбывацца ў індзійскай сцэнерыі.

**ЗМАРНАВАНЫЯ**

Вялікія цяжкасці з інвестыцыямі ў культуры. Новая 5-годка асабліва будзе ў іх скупая. Віна, што няма т. зв моцы пшэрабовай, г. зн. няма дастатковай колькасці будаўнічых прадпрыемстваў. Таму часта не выкарыстоўваюцца грошы, якія ёсць, або марнуюцца праекты і каштарысы падрыхтаваныя для новых інвестыцый. Так было з домам культуры ў Бельску, дзе меўся быць капітальны рамонт, за 300 тыс. зроблена дакументацыю і... нічога не адбылося.

**ВЕСЦЬ НЯСЕ...**

...што забытковую сінагогу 1 класа ў Орлі пачнуць рэстаўраваць не раней як у 1968 годзе. У гэтым годзе падрыхтуюць толькі дакументацыю за 60 тыс. зл. Але Арлянская сінагога вельмі нішчэе, і кажуць, што крыху вінаватыя ў гэтым мясцовыя ўлады, якія не дбаюць пра добрае забеспячэнне.

**РАМОНТ КІНО «ПОКУЙ»**

Найбольш сучаснае рэпрэзентацыйнае кіно ваяводства «Покуй» у Беластоку пройдзе летам генеральную аднову за 600 тыс. зл.

*

Утульны дом у Белавежскім парку, у якім зараз змяшчаецца рэстаран, быў некалі ў 1945 г. леснічоўкай. Ён вельмі маляўнічы і належыць да Белавежскіх памятнікаў старадаўнасці.

*

Два галоўныя заблудаўскія помнікі архітэктуры гэта: царква з XVIII ст. (барок, які пераходзіць у класіцызм) і касцёл з 1810 г. у стылі класіцызма.

*

Сярод культурных здарэнняў перадканікульнага перыяду ў Беластоку назаву выступленне Музычнага тэатра з Гдыні з музычнай камедыяй «Пашлюбная ноч», выстаўку мастацтва двух маладых варшаўскіх мастакоў (добрая канфрантацыя поглядаў і форм) і прэм'еру ў тэатры Вянгеркі крымінальнай камедыі «Другі стрэл». (вл)

## ТРЫ ПАКАЛЕННІ

Найстарэйшы тут — Мікола Лебядзінскі. Цяпер ён настаўнік пенсіянер. Адпачывае. Але жыццё яго прайшло ў напружаным і няспынным змаганні. Дзеяч Грамады і ТБШ, член КПЗБ. Свае сяброўкі па прафесіі, настаўніцы пачатковай школы ў Гарадку — Леакадзію Кацёлэк (злева) і Галіну Радзішэўскую, ён называе звычайна дочкамі. І хіба мае дзеля гэтага права. На іх жыццё паў цень вайны. Яе жудасці назаўсёды астануцца ва ўспамінах з дзіцячых гадоў. Аднак народная ўлада стварыла спрыяльныя ўмовы, і яны змаглі дабіцца карыснай і высакароднай прафесіі.

Што ж тады сказаць пра пакаленне аднагодкаў гэтаму хлапчуку? У іх таксама шмат сваіх турбот, для іх найважнейшых. Але гэтыя турботы згуртоўваюцца найчасцей вакол праблем: як вучыцц,а як перайсці з класа ў клас, у якую накіравацца школу? І з усяго сэрца пажадаць бы ім, каб другіх турбот яны ніколі не ведалі.

**Тэкст і фота В. Рудчык**






(Працяг са стар. 1)

фабрыкі ў Гайнаўцы, а таксама электрастанцыі, пякарні, млыноў і малачарні ў Бельску.

Памагалі таксама саматужным майстэрням, якія арганізаваліся на тэрыторыі павета, прадуктовым і галантэрыйным магазінам.

Ужо ў лістападзе 1944 года было на тэрыторыі Бельскага павета звыш 300 рамесніцкіх майстэрань, 36 магазінаў, 9 пякарняў і звыш 10 млыноў.

На пачатку 1945 года ў перыяд выконвання функцыі старасты Раманам Вознякам дзейнічае ўжо ў павеце 111 дробных прамысловых прадпрыемстваў — агромны здабытак так кароткага перыяду, калі вядзецца яшчэ вайна з фашыстамі, а на месцы, у павене дзейнічалі рэакцыйныя банды, якія тэрарызавалі людзей і стараліся падарваць давер'е грамадзян да пачынанняў маладой улады.

Банды нацыянальных сіл збройных нападаюць на камэнды Грамадзянскай міліцыі і дзеячаў, якія працуюць у тэрэне. У палове лістапада 1944 года энэшэтоўцы арганізуюць засаду на працаўнікоў Грамадзянскай міліцыі з Цехановуца. Гінуць усе міліцыянеры.

У студзені 1945 года банда нападае на камэнду МО у Цехановуцу, забіваючы ўсіх працаўнікоў.

У такіх умовах кладуцца фундаменты новага ладу ў Бельскім павеце ў 1944 годзе.

Пасля сарганізавання ў жніўні 1944 г. Ваяводскага камітэта ППР — пачынаецца арганізацыя Павятовых камітэтаў у тэрэне ваяводства. Функцыю сарганізавання Павятовага камітэта ППР у Бельску давярае ваяводская інстанцыя Васілю Васілюку, быламу дзеячу Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі.

Навязвае ён кантакты са шматлікімі мясцовымі дзеячамі, былымі членамі КПЗБ — Мікалаем і Яфрэмам Парфенюкамі, Якавам Базылюком, Антонім Нікановічам, Міхалам Пракапчуком і Тамашам Грабажам. 5 лістапада 1944 года паўстае Павятовы камітэт Польскй рабочай партыі, а яго І-шым сакратаром — Васіль Васілюк. Дзейнічаюць ужо тады ў павеце першыя ячэйкі ППР-у ў Бельску, Цехановуцу, Гайнаўцы і Макаўцы. У Цехановуцу ініцыятарам і арганізатарам ППР з'яўляецца Тамаш Грабаж, былы актыўны дзеяч Камуністычнай партыі Польшчы, арганізатар савецкай улады ў Цехановуцу ў 1939 годзе. За сваю дзейнасць рэакцыйныя банды па-зверску забілі яго ўжо ў студзені 1945 года.

Пасля арганізавання Павятовага камітэта паўстаюць далейшыя ячэйкі ППР-у ў Кленіках, Кляшчэлях, Нараўцы, Залешанах і яшчэ ў іншых шматлікіх вёсках павета. Нягледзячы на тэрытарыяльныя цяжкасці, нягледзячы на тэрор варожых сіл, асягаюцца добрыя вынікі ў разбудове партыйных радоў. Партыйная арганізацыя Бельскага павета стаецца адной з найбольш шматлікіх з павятовых арганізацый у ваяводстве, ахопліваючы 33% членаў усяе беластоцкай арганізацыі. Толькі ў снежні 1944 года ўступае ў рады партыі ў Бельскім павеце 115 чалавек, у тым 82 сялян, 18 рабочых, 15 работнікаў разумовай працы.

Гэтае развіццё праводзіцца ў безупыннай барацьбе. На Пленуме Павятовага камітэта 15 лістапада 1945 года тагачасны сакратар ГК у Нараўцы Юзэф Трусевіч, зараз І сакратар Гарадскога камітэта ПАРП у Беластоку, гаворачы пра факты забойстваў дзеячаў ППР-у, ставіць прапанову, каб членам партыі даць зброю. Становішча вельмі сур'ёзнае, і шматлікія члены партыі павінны кожнай ночы хавацца перад бандамі.

Набліжаецца 1946 год, але надалей у Бельскім павеце гараць вёскі, падаюць стрэлы і прыбывае новых магіл. 29 студзеня банда «Бурага» знішчае вёскі Залешаны і Вольку Выганоўскую ў гміне Кляшчэлі, а 2 лютага кроў і смерць прыходзіць да жыхараў вёскі Шпакі ў



 

# УСЁ НАС ЯДНАЕ

Пад такім іменна лозунгам адбылася 29-га мая сустрэча ўкраінцаў Шчэціна з беларускім паэтам і дзеячам БГКТ — Віктарам Шведам.

У Шчэцінскім аддзеле УГКТ сустрэчы з культурнымі дзеячамі ўсіх нацыянальнасцей сталіся ўжо традыцыяй.

Аўтарскі вечар Віктара Шведа пачаўся традыцыйным прывітаннем госця шчэцінскімі дзеячамі УГКТ. Пачаткова нічога не паказвала на тое, што будзе ён іншым ад шматлікіх папярэдніх.

Але вось прысутныя пачалі прасіць Шведа, каб ён гаварыў на сваёй роднай мове. Віктар Швед ахвотна згадзіўся на гэта. Большасць прысутных першы раз у жыцці чула беларускую мову і з прыемнасцю сцвердзіла, што разумее беларускую мову ў 90%. Усе пераканаліся, што ўкраінец з беларусам лёгка могуць дагаварыцца без перакладчыка.

Віктар Швед коратка пазнаёміў слухачоў з выдавецтвамі беларускай літаратуры ад моманту яе існавання, падкрэсліваючы прытым супольныя рысы, якія спалучаюць яе з украінскай літаратурай. Даўжэй затрымаўся над справай беларускай літаратуры ў санацыйнай Польшчы. Зрабіў тут дакладны перагляд пісьменнікаў і паэтаў, якія дзейнічалі ў перыяд міжваеннага дваццацігоддзя, прозвішчы якіх многія з нас чулі першы раз напрыклад: Г. Леўчык, Л. Радзевіч, Ул. Жылка, М. Васілёк, П. Пестрак і іншыя.

Далейшую частку вечара В. Швед прысвяціў абмеркаванню і ацэнцы творчасці беларускіх пісьменнікаў і паэтаў у Народнай Польшчы, а таксама сваёй творчасці.

Чытаў некаторыя свае вершы з літаратурнага альманаха «Белавежа», а таксама творы, якія ў альманах не ўвайшлі.

Найбольш «узяў за сэрца» глыбока патрыятычны верш паэта «Родная мова». Апрача чыста літаратурнай тэмы тав. Швед пазнаёміў нас з працай і дасягненнямі БГКТ у Польшчы.

У ажыўленай дыскусіі сабраныя сцвердзілі, што зараз няма нічога такога, што б нас разрознівала. Наадварот! Усё нас яднае! І таму вельмі шкада, што да такіх вывадаў даходзім толькі пасля 10 год існавання УГКТ і БГКТ. Наш госць зачараваў нас таксама сваёю асобай. Вельмі культурны спосаб паводзін, скромнасць і беспасрэднасць, а прытым глыбокая эрудыцыя прымушаюць у адносінах да яго адносіцца з пашанаю. Калі рэч ідзе пра атмасферу сустрэчы, то я вымушаны моцна падкрэсліць, што была яна зусім іншай, чым шмат іншых, папярэдніх — абсалютна не адчувалася элементу афіцыйнасці. Наадварот, было такое ўражанне, што сабралася найбліжэйшая сям'я, каб пагутарыць аб сваіх найбольш інтымных справах.

Дзякуем нашаму дарагому госцю за многа незабыўных уражанняў, жадаем яму і сабе больш такіх сустрэч, а нашым таварыствам больш ажыўленага і больш цеснага супрацоўніцтва.

**Юрко Хмара**
Шчэцін




Даклад чытае Аляксандр Харкевіч. Злева — кіраўнік культурна-асветнага аддзела Мікола Лобач. Справа — старшыня ГРН у Семяноўцы Міхась Васільчук.

# ФЕСТЫН БГКТ

Нягледзячы на тое, што пагода не ўдалася (холадна і пахмурна), аднак на фестын БГКТ у Семяноўку сабралася шмат людзей. На школьным пляцу гаманліва. На сцяне школы вісіць вялікае палотнішча з надпісам «1000 год плённага супрацоўніцтва і дружбы паміж беларусамі і палякамі».

Вялікім поспехам карыстаецца кніжная латарэя. Пры будках нараўскага ГС-у шмат пакупнікоў піва, аранжады, «канапак» і іншых харчовых прадуктаў.

Наступае цішыя, калі на трыбуну, зробленую з дзвюх самаходных прычэп, уваходзяць прадстаўнікі Галоўнага праўлення, Гайнаўскага аддзела БГКТ, а таксама прадстаўнікі павятовых улад.

Адкрывае ўрачыстасць актывіст БГКТ, старшыня грамадскай рады нарадовай у Семяноўцы Міхась Васільчук.

З дакладам Галоўнага праўлення выступае кіраўнік школы ў суседніх Ляшуках — Аляксандр Харкевіч. Змест даклада, аб супрацоўніцтве і дружбе палякаў і беларусаў, прысутныя слухаюць з вялікім зацікаўленнем.

Пасля даклада распачынаецца мастацкая частка фестыну. Выступаюць ліцэісты з беларускай школы ў Гайнаўцы. У іх выкананні ўсе з захапленнем слухаюць песні, вершы і скетчы.

Канчаецца мастацкая самадзейнасць і на трыбуне з'яўляюцца прадстаўнікі з. супрацьалкагольнага праўлення ў Гайнаўцы. Яны падрыхтавалі цікавую супрацьалкагольную «Згадуй згадулю».

Пасля мастацкай часткі адбылася забава ў мясцовай вялікай святліцы, якая праходзіла весела і культурна.

І так, фестын БГКТ, які адбыўся 26 чэрвеня і быў прысвечаны 1000-годдзю Польскай дзяржавы, быў добра падрыхтаваны з арганізацыйнага боку. Па праву належыцца падзяка арганізатарам, да якіх трэба залічыць мясцовы актыў з Семяноўкі, які шмат папрацаваў разам з інструктарам Гайнаўскага аддзела БГКТ Віктарам Бурай.

**Тэкст і фота М. Хмялеўскі**







Удзельнікі фестыну слухаюць даклад.



Кніжная латарэя. Справа арганізатар латарэі, член праўлення Гайнаўскага аддзела БГКТ Кастусь Грыц.

гміне Вышкі і Зане ў гміне Бранск 46 чалавек было забітых, а звыш 30-ці раненых, гарыць 76 дамоў, гараць гаспадарскія забудаванні, а ў хлявах гарыць хатняя жывёла. Ужо восьмы раз перажывае бандыцкі напад на камэнду Грамадзянская міліцыя ў Боцьках, а трэці раз змагаецца Цехановец.

А жыццё павета, ваяводства і ўсяе краіны ўсё ідзе наперад. Растуць рады партыі не толькі бельскай арганізацыі, узмацняецца народная ўлада, якая пасля ўступнага экзамена чэрвеньскага рэферэндума 1946 года — рыхтуецца да правядзення галоўнай палітычнай кампаніі — выбараў у Сейм.

У палітычнай працы звязанай з выбарамі на блізка 1700 членаў партыі ў павеце прымае беспасрэдны ўдзел амаль 1300 чалавек, гэта значыць 76% агульнай колькасці членаў ППР у павеце. Праводзяць яны каля 1500 сходаў з грамадскасцю і каля 50 перадвыбарчых мітынгаў. Калі ў студзені 1947 года жыхары Бельскага павета ідуць да выбарчых урнаў аддаць свае галасы на карысць народнай уладзе — Дэмакратычны блок атрымоўвае 91% галасоў.

Гэта вялікая перамога, хаця варожыя сілы стараюцца зрабіць усё, каб перашкодзіць грамадзянам свабодна галасаваць.

14 снежня 1946 года ў памяшканне, дзе адбываўся сход Саюза барацьбы маладых вёскі Аўгустова, вораг укінуў гранату, якая раніць 7 чалавек.

Ноччу 19 снежня банда ўламалася ў выбарчае памяшканне № 56, хочучы знішчыць выбарчыя спіскі. У дзень выбараў 19 студзеня 1947 года бандыцкія групы арганізуюць узброеныя напады на выбарчыя акругі № 92 у Мельніку і № 106 у Скорцу. Гэтыя напады былі адбіты — у барацьбе паранены былі два салдаты.

Перамога дэмакратычных сіл у выбарах у Сейм адкрывае новы перыяд у гісторыі народнай улады як у краіне, так і ў Бельскім павеце.

Канчаецца этап закладвання фундаментаў пад новы лад, наступае стабілізацыя палітычнага і грамадскага жыцця. Баланс коштаў з'яўляецца аднак вялікім.

У барацьбе за арганізаванне і замацаванне народнай улады, за ажыццяўленне ідэі партыі загінула ў Бельскім павеце ад бандыцкіх куляў 426 чалавек, у тым 108 самаадданых членаў Польскай рабочай партыі, 111 працаўнікоў міліцыі і бяспекі, 39 працаўнікоў партыйнага і дзяржаўнага апарата, 27 рабочых, 176 сялян і 12 прадстаўнікоў перадавой інтэлігенцыі.

Традыцыйна падсумоўваючы напярэдадні ліпеньскага свята нашы дасягненні — ніколі не забудзем пра тую кроў, якая была праліта 22 гады таму.

**Мгр Станіслаў Корбут**

## Пшаніца бы... кактус

*У Аўстраліі бываюць частыя сушы, якія вынішчаюць ураджаі збожжа. Аднаму аўстралійскаму вучонаму ўдалося вынайсці сродак, які прыдае пшаніцы некаторыя ўласцівасці кактуса. Як вядома, кактус моцна вытрымалы на засушлівасць.*

*Гэтае вынаходства аўстралійскага вучонага будзе мець велізарнае значэнне для аўстралійскай гаспадаркі і не толькі аўстралійскай.* (а-ся)

## Адкуль паявіліся Амерыканскія індзейцы

*Археолагі ўжо даўно даказалі, што засяленне амерыканскага кантынента адбывалася ад Азіі цераз Аляску. Гэта мела месца каля трыццаці тысяч год таму назад. Такім чынам узніклі індзейскія плямёны.*

*Цяпер паўстаюць цалкам абгрунтаваныя здагадкі, што японскія мараходы паявіліся на амерыканскім кантыненце каля пяці тысяч год таму назад — праплыўшы каля пятнаццаць тысяч кіламетраў Ціхага акіяна. Нядаўна амерыканскія археолагі адкрылі ў Эквадары, непадалёку малой рыбацкай вёскі, гліняныя гаршкі, якія былі зроблены каля пяці тысяч год таму назад. Маюць яны такія самыя аздобы, як старыя гліняныя гаршкі на некаторых японскіх астравах. Такое падабенства аздоб не магло быць выпадковым. Відаць, японцы даўно ведалі Амерыку і амерыканскіх індзейцаў, і ўтрымоўвалі ўзаемныя сувязі.* (а-ся)

## Агрэсіўныя пчолы

*Афрыканскія пчолы сталіся нячасцем Бразіліі. Апошнім часам памерла ад іх шмат людзей.*

*Усё пачалося ад таго, што дзесяць год таму назад прывезена сюды з Афрыкі 20 афрыканскіх пчол — матак. Разыходзілася пра тое, што ляпей прыстасаваныя да гарачага клімату пчолы будуць даваць больш мёду, чым пчолы, прывезеныя калісьці ў Бразілію з Нямеччыны і Італіі. І так было напраўду: мёданоснасць «новых» пчол з Афрыкі была шмат большая. Але малая з таго ўцеха, бо аказалася, што гэтыя пчолы надта злосныя.*

*Не споўніліся надзеі, што ў выніку скрыжавання з мясцовымі пчоламі іх патомства будзе лагаднейшым. Сталася наадварот. Некаторыя аколіцы Бразіліі знаходзяцца пад тэрорам пчаліных раёў, якія небяспечна «тнуць» людзей і хатнюю жывёлу. Размнажаюцца яны вельмі хутка. Цяпер гавораць ў Бразіліі аб патрэбе вынішчэння ўсіх гэтых пчол і прывозе пчол з іншых краін, больш лагодных, не так злосных.* (а-ся)



**На здымку: Камсамольцы — першыя будаўнікі горада ў Тайзе — у час мантажу абсталявання электрычнай сеткі.**
Фота ЦАФ (а-ліў)

## Горад у тайзе

На Далёкім Усходзе СССР, у Хабараўскім краі, будуецца новы горад. Вырасце ён на месцы сённяшняга пасёлка «Сонечнае», дзе пакуль што паставілі часовыя баракі і юрты для прыехаўшых сюды камсамольскіх брыгад — будаўнікоў горада. Пачалі ўжо будову першага, дзесяціпавярховага будынка, у якім будуць жыць рабочыя і іх сем'і. Адначасова будуецца тут адзін з найбольшых далёкаўсходніх камбінатаў да ўзбагачання руды, вакол якога разбудуецца цэлы камплекс прамысловых забудаванняў.

Над невялічкаю рэчкаю Халдомінкаю вырасце новы цэнтр савецкай горнай прамысловасці.



З ЭФІЁПІІ

Двухразовы алімпійскі чэмпіён, паручнік Імператарскай Гвардыіі Абебе Бікіла з сынам. Найлепшы спрынтэр Афрыкі і свету. (а-ся)

## УСЁАБ ФІЛЬМЕ

Якіх загранічных фільмаў было найбольш на нашых экранах у 1965 годзе? Падаем 6 першых.

СССР — 35 поўнага метражу і 9 кароткага
ЗША — 22 поўнага метражу і 7 кароткага
Францыя — 20 поўнага метражу і 7 кароткага
Чэхаславакія — 19 поўнага метражу і 10 кароткага
Італія — 19 поўнага метражу
Англія — 10 поўнага метражу .

*

Не моюць канца гісторыі з Дзікага Захаду. Вось «Стрэльбы апачаў» новы амерыканскі фільм з 1879 года. Гісторыя і лёс шукаючых золата і лёс найбольшага, найбольш свабодалюбівага індзейскага племені — магутных і хітрых апачаў. Апачы бараніліся найдаўжэй перад агрэсіяй белых, але наканец перамаглі белыя, якія ішлі са стрэльбамі і «агністай вадой» — як называлі індзейцы гарэлку.

*

«Бітва за паморскі вал» — найбольшая з бітваў Людовага войска польскага пасля 20 год дачакалася фільмовага апрацавання. Увайшлі ў гэты фільм польскія і заграпічныя матэрыялы і здымкі. (вл)

### НАЙБОЛЬШЫ ЧАЛАВЕК ЕЎРОПЫ

*Нейкі Эргард Велер з Діцбурга (ГФР) з'яўляецца найбольшым чалавекам Еўропы. Мае ён узросту 2 метры і 38 сантыметраў. Жыццё гэтага грамадзяніна не з'яўляецца лёгкім. Не толькі адзенне і абутак трэба заказваць, але нават ложка, таму што на звычайным, нармальным ложку ён не змяшчаецца.* (ліў)

### ПРЫСЯГА МУЖА

*У Танзаніі мужчыны, якія жэняцца, абавязаны скласці сваёй маладой жонцы вось такую шлюбную прысягу:*

*«Хай кроў павыплывае з маіх жылаў і пярун разарве мяне папалам, хай прагліне мяне кракадзіл і хай буду насіць ваду ў лазовым кошыку цераз полымя, хай аглохну, аслёпну і стануся жабраком, хай падуць на мяне ўсе няшчасці, калі здраджу маю жонку».*

*Ой, высокая, як відаць, цана мужчынскай вернасці ў гэтай гарачай краіне.* (а-ся)

---

АЛЯКСЕЙ КАРПЮК

# ПУШЧАНСКАЯ АДЫСЕЯ

Яшчэ больш нечаканую сустрэчу меў я ў Мінску, куды выклікалі мяне здаваць справаздачу. Горада тады фактычна не існавала. Беларускі Штаб Партызанскага Руху размяшчаўся за горадам, у Лошыцы. Тысячы партызан жылі па хатах і гумнах навакольных вёсак. На кожную дыверсію трэба было завесці асобны акт, кожную сутычку з немцамі апісаць. Трэба было скласці спісы людзей: партызан, сувязных; пералічыць зброю, запоўніць наградныя лісты, — каб уладзіць усё гэта, давялося жыць там пару тыдняў.

Аднаго разу абедаю ў партызанскай сталоўцы. Ля акенца, адкуль партызанкі падаюць страву, спіной да мяне тырчыць рослы хлопец і падлабуньваецца да кухарак, просіць дабаўкі. Па акцэнту пазнаю немца. У партызанах іх было некалькі соцень, не звярнуў бы ўвагі і на гэтага, калі б не знаёмы голас. Немец паварочвае галаву, і я слупянею. Перада мной... штутгофскі Рыхард Шэмуксніс, чырвоны вінкель, нямецкі камсамолец з Інстэнбурга.

— Ры-ыхард?

— Алекс? — з жахам адступае ён.

Кідаемся абдымацца. Адскочым, паглядзім адзін на аднаго і зноў абдымаемся. Загарэлы твар з прамым носам аж свеціцца ад радасці і шчасця. На новым англійскім мундзіры іскрыць серабро і рознакаляровы шоўк ад медаляў. Ніяк не змяшчаецца ў маёй галаве, што перада мной, вось тут, у Лошыцы, — немец са Штутгофа! Рыхард ведаў толькі сваю мову. Дзіўна слухаць у яго вуснах руска-беларускую мешаніну і бачыць, як у ім спалучаецца нямецкая салідпасць і акуратнасць з партызанскай зухаватасцю.

— Што ты тут ро-обіш, Ры-ыхард? Як сюды трапіў?

— Так, як і ты!

— Даўно са Штутгофа?

— Да-аўно!

Раптам мяне агортвае смяротная трывога:

— Кажы, што ведаеш пра майго брата!

— Уладак? Жы-ывы-ы!

— Ну-у?

— Жывы!

— Яго не павесілі? Рыхард, ты кажаш праўду?

— Бачыў яго месяцаў тры пасля тваіх уцёкаў. Ён выглядаў але фэ-эст!

— Праўд-да... — нейкі камяк ціспе мне горла, выступаюць слёзы.

— Праўда, супакойся! Уладак праляжаў месяц у бальніцы, потым яму начапілі на грудзі і плечы мішэнь і выпусцілі. Адправілі на цагельню, да Адзі Мэркера...

Мішэнь гэтую з чорна-бела-чырвоных колаў памерам з талерку я ведаю. Як толькі вахману паказваўся падазроны рух ці грымаса такога арыштанта, салдат павінен быў страляць без папярэджання. Зноў робіцца трывожна, але ўжо стараюся сябе не выдаваць.

— Пацярпела за мяне многа людзей? — пытаюся далікатна.

— О-о, мэнш, усім дасталося! Каму семдзесят бізуноў адмераў Зялёнка, а капо Люкембах сто атрымаў. Каму адразу капут зрабілі...

— Ка-апу-ут?

— У Штутгоф прывезлі нейкага англічаніна. Гэта праўда, дапамагаў ён табе? Я нават не адразу разумею, аб чым гутарка. Нарэшце ўспамінаю!

— Рыхард, дык нас жа тады на панадворку ніхто не бачыў, была цёмная ноч! —хачу давесці сябру, быццам гэтым магу яшчэ змяніць становішча, вярнуць да жыцця чалавека.

— Жонка баўэра, сцерва, заўважыла вас. Днём заявіла ў гестапа. Зрэшты, падрабязнасцей не ведаю... Але ж ты малайчына, так абдурыць, до-онэрвэтэр!..

Адчуваю, як новы груз кладзецца на маё сумленне. Слухаць пахвалы сябра невыносна прыкра.

— Дзе ты жывеш? — перабіваю яго.

— Там. Ін голыцхлеў... Э-э-э, ін гумно! Я понімаю хорошё, а говорю плёхо, фэрфлюхтэ!

— Давай дамовімся: ты будзеш па-свойму, я — па-свойму!

— Гут. Альзо...

— Стоп! Пайшлі да майго гумна! Я прывёз харчоў, бяру тут толькі страву. Хадзем, накармлю лепшым чым-небудзь! Разлічуся за твае пайкі хлеба з апілкамі, якія ты даваў мне і Уладку, калі вяртаўся з Эльбінга, памятаеш?

— Го-о! — штурхае мяне ў бок і крычыць: — І трэба ж так спаткацца, Алекс!

Рыхард пачынае апавядаць. Пасля маіх уцёкаў некалькі месяцаў у Штутгофе нічога не мянялася, пакуль Гітлер не аб'явіў чарговую татальную мабілізацыю. У лагер прыбыла камісія, стала вербаваць для фронту здаровых немцаў. Арыштантаў прывезлі пад Берлін, стварылі з іх новую дывізію. Каб гэтыя салдаты потым не ўцякалі на другі бок акопаў, іх апранулі ў мундзіры

# ТРЫБУНА чытачоў

## Масева запрашае

Масева ляжыць у самым сэрцы Белавежскай пушчы. У час канікулаў з'язджаецца сюды многа моладзі з суседніх вёсак, а нават з горада, каб спакойна адпачыць, палюбавацца прыродай. Ёсць і такія, якія ў час канікулаў хочуць прызарабіць пару злотых у мясцовым Надлясніцтве. Ёсць тут гатэль для рабочых, які можа памясціць каля 50 чалавек. У сезоне мясцовы пункт скупу «Лес» скупляе ў дзень каля дзвюх тон чорных ягад. Гэта добрыя заробкі ў асноўным для вучняў, якія зарабляюць у дзень на ягадах часам больш 100 зл.

Таго, хто завітае ў Масева хоць раз, ужо будзе цягнуць сюды, як воўка ў лес. Пабачыць можна тут усю фаўну пушчы, усё: ад зайца да зубра. Ёсць тут нават бабры, чаго і ў Белавежы не пабачыш. Недалёка ў лесе цячэ рака Гвозьна. У карыце гэтай ракі бабры зрабілі таму, вада выступіла з карыта і цячэ разарватам, а потым з вялікім гукам вадаспада злятае зноў у карыта. Там, дзе тама баброў, рака зарасла кустамі. Пад тымі кустамі бабры пакруцілі норы. Той, хто ідзе каля ракі, можа уляцець у нору і пакупацца разам з бабром. Ёсць тут ў адным месцы тоўсты дуб. Яго не здолее ахапіць шэсць чалавек. Хто мае крыху шчасця, можа лічыць на тое, што знойдзе ў лесе аленевыя рогі. У жыхараў Масева ў кожнага ў хаце можна пабачыць цэлыя сцены абвешаныя рагамі, быццам у музеі.

Масеўская моладзь культурная. Ад 1957 года на забаве не было боек, у клубе не пабачыш ніводнага хлапца ў галаўным уборы. У кожную суботу і нядзелю ў клубе адбываюцца маладзёжныя забавы. Хто не хоча танцаваць, можа спакойна глядзець, папіваючы «чорную каву». Словы падзякі за добрую абслугу належаць тут Лёдзі Вярбіцкай. Можна часта тут пачуць песні масеўскіх салістаў. Хто завітае ў Масева, таму раю спаткацца з найстарэйшым чалавекам, дзедам Піліпам. Яму ўжо каля дзевяноста гадоў. Кажуць, што калі дзед быў маладым, то ў полі даганяў ліса. Ён і цяпер яшчэ вельмі хутка бегае. Дзед Піліп часта расказвае легенду пра Масева. Недалёка ў лесе ёсць глыбокая яма. Аднаго разу я спытаў дзеда Піліпа, адкуль гэтая яма, і дзед пачаў расказваць:

— Тут, дзе гэтая яма, калісьці стаяў вялікі храм. У гэты храм вяла праз лясы вельмі прыгожая брукаваная дарога. Аднаго разу ў храме было вельмі многа людзей. У гэты час раптам зямля заварушылася, а потым разышлася, і храм пачаў разам з людзьмі ўваходзіць у зямлю. Калі схаваўся і крыж, зямля ізноў заварушылася і зышлася, а там, дзе стаяў храм, засталася толькі гэтая яма. Над захадам сонца прылажы вуха да зямлі, а пачуеш, як б'юць званы. А тую брукаваную дарогу яшчэ і цяпер можна адшукаць у пушчы. На ёй растуць ужо векавыя дубы.

У полі стаіць зноў вельмі старая яблыня. Дзед кажа, што ёй ужо каля 300 год. Яна ў сярэдзіне дзюплявая. Можна там і ад дажджу схавацца. Вярха ўжо няма, зломаны.

Калісьці тут было панскае поле. Пан сядзеў на яблыні і глядзеў, як працуюць людзі. Многа тут ёсць яшчэ ўсяго, дзе калісьці золата было пахавана, дзе чорт страшыў.

**«Верас»**
Масева




**ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!**

Маю 19 год. Не маю бацькі. Мой бацька не ажаніўся з маёй маці. І жылі мы з мамай у недастатку, і ў школе заўсёды мне дакучалі дзеці і празывалі. Але цяпер, калі ўжо я дарослая, адносіны да мяне змяніліся. Аднак заўсёды адчуваю сябе «горшай» ад іншых маіх сябровак. Кажуць, што я небрыдкая, аднак гэта мяне не суцяшае. Я маю аднак гэты комплекс і таму мо не вельмі мною цікавяцца хлопцы. Аднак, апошнім часам ходзіць да мяне адзін хлапец з маёй вёскі і хацеў бы, каб я выйшла за яго замуж. Нават небрыдкі. Але мне ён не падабаецца. І таму я не вельмі хацела б выходзіць за яго замуж. Аднак маці прымушае мяне, каб я выйшла за яго. Гаворыць, што іншы са мною не ажэніцца. Мама мая проста прымушае мяне да гэтага замужу. Я прадчуваю, што мама баіцца, каб я не асталася ў старых дзеўках і каб не мела такога цяжкага жыцця як яна. Парай Сэрцайка, што рабіць?

**Маня** з Сакольшчыны

**Дарагая Маня!**

І па-мойму ты не павінна выходзіць замуж за гэтага хлапца, калі не маеш да яго ніякіх пачуццяў. Бо жыццё з «чужым» чалавекам вельмі цяжкае. Аднак не можаш ты мець прэтензіі да сваёй мамы, што хоча цябе выдаць за яго замуж. Мама мела цяжкае жыццё, нямала нацярпелася, таму баіцца, каб і яе дачку не спаткала цяжкая, як гавораць, доля. І таму ты павінна з ёю проста па-сяброўску пагаварыць, вытлумачыць ёй, што ты яшчэ маладая і не маеш чаго спяшацца замуж. Яшчэ паспееш спаткаць хлапца, які табе хоць трохі (калі не вельмі) спадабаецца. І хоць вам цяжка ўдваіх на гаспадарцы, аднак пераканай маму, каб яшчэ пачакала. Напэўна мама цябе зразумее, толькі калі будзеш з ёю гаварыць сапраўды па-сяброўску, без гневаў, без крыкаў і т. п.

Жадаю вам усяго найлепшага

**Сэрцайка.**

## ЧЫТАЧЫ ПЫТАЮЦЬ-„НІВА" АДКАЗВАЕ

**Пытанне:**

Бацька мой пакінуў завяшчанне, у якім гаспадарку падзяліў паміж сыноў, а маіх братоў, а мне запісаў 20 000 зл. Павятовы суд сцвердзіў набыццё спадчынных правоў паміж сынамі, а мяне ў сваёй пастанове памінуў. Я жыву на гаспадарцы мужа і не страціла спадчынных правоў да гаспадаркі бацькі. Ці можа так быць, што завяшчанне, якое суд прызнаў важным, з'яўляецца няважным у адносінах да мяне?

**Адказ:**

Наследнікамі ў апісанай вамі справе з'яўляюцца толькі вашыя браты, таму суд сцвердзіў толькі іх правы. Запісаныя на вашу долю 20 тысяч злотых з'яўляюцца запісам. Той, хто атрымоўвае ў завяшчанні запіс, не з'яўляецца наследнікам. Ён мае права патрабаваць ад іншых наследнікаў выдання запісу. Калі б вашыя браты не хацелі дабравольна заплаціць вам 20 тыс. зл., вы можаце патрабаваць гэтыя грошы праз суд. Да гэтага ніякае сцверджанне правоў не патрэбна.

## ВАСІЛЬ БАРТНІЧУК



Грамадскасць Мілейчыц добра ведае Васіля Бартнічука ўдзельніка Кастрычніцкай рэвалюцыі. Служыў ён тады ва флоце на браняносцу «Андрей Первозванный».

У 1918 годзе ў перыяд ад 25 лютага па 24 сакавіка гэты ваенны карабель браў удзел у слаўным пераходзе Рэвалюцыйнага Балтыйскага флота праз лёд Фінскага заліва. У выніку гэтай смелай аперацыі 211 ваенных караблёў, у тым ліку 6 браняносцаў, прабіліся з Галісінгфорсу да Кранштадту, гэтым самым пазбеглі апанавання праз войскі праціўніка. Васіль Бартнічук браў таксама актыўны ўдзел у змаганнях Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі.

Зараз яму ўжо 85 гадоў. З'яўляецца ён пенсіянерам. (мх)

## ЦЭНЫ

Ваяводская камісія цэн пастаянна сочыць за цэнамі на кірмашах, дзе не абавязваюць дзяржаўныя цэннікі. Яе працаўнікі ў мінулым тыдні (у чацвер у Беластоку і Бельску, а ў сераду — у Гайнаўцы) аднатавалі наступныя цэны (у злотых):

| Прадукт | мера | Беласток | Бельск | Гайнаўка |
|---|---|---|---|---|
| жыта | цэнт. | 280 | 290 | 300 |
| пшаніца | цэнт. | 480 | 390 | 360 |
| яйкі | 1 шт. | 1,60 | 1,60 | 1,50 |
| масла | кг | 56 | 50 | 60 |
| ялавічына | кг | 36 | 28 | — |
| свініна | кг | 36 | 37 | — |
| сала | кг | 33 | 35 | — |
| бульба стар. | кг | 1,20 | 0,90 | 0,60 |
| бульба новая | кг | 2,50 | 2,50 | 2,60 |
| цыбуля | кг | 10 | 6 | 10 |
| капуста | кг | 3 | 3 | 4 |
| морква | кг | 6 | 5 | — |
| буракі | кг | 5 | 4 | — |

## У МЯКІШАХ

Каля вёскі Мякішы, што ў Бельскім павеце, праплывае рэчка Локніца. У мінулым годзе кусок гэтай рэчкі накіравалі ў новапабудаванае рэчышча. У старым карыце рэчкі будуць гадаваць рыбу.

На здымку: На вуліцы Мякішаў.

Фота М. Хмялеўскі



**войск СС. Дывізію вышкалілі і накіравалі на Усходні фронт.**

**— Памятаеш Цымермана?**

**— Садыста і бандыта з зялёным вінклем і трыма жонкамі?**

**Да смерці запомніў!**

**— У-у, ён загубіў не адзін дзесятак арыштантаў!**

**Уяўляеш, гэты гомосэксуалістэн, калі мы прыбылі ў Беласток, падлез і шэпча: «Давай уцякаць у лес, адгэтуль Алекс. Ён тут у партызанах, пісаў брату...» Не-е, не пабягу з табой, сука ты прадажная, пачакаю Мінска!**

**— Бач, адумаўся! — дзіўлюся, успамінаючы свайго старшыню блока — тыпа з тыпаў.**

**— У-у, фэрфлюхтэнэ гомосэксуалістэн! Яны ўсе без прынцыпаў, так і глядзяць, дзе выгада!..**

**— Чорт яго бяры, давай далей!**

**— Прыехалі ў Мінск. Загналі наш эшалон на запасны пуць. Стаім дзень, два. Я падгаварыў яшчэ адзінаццаць чалавек. Набралі мы гранат, чэшскіх кулямётаў, паскідалі шынялі, каб лягчэй было бегчы, і — ходу! Трое сутак лазілі па мінскіх лясах, і нідзе ні душы, — до-онэр-вэтэр, кройцунд сакрамэнтэн! Перамерзлі да смерці, майн гот, выбіліся з сілы, думалі — капут! Убачылі ў лесе будку. Заходзім, а там дзед. Пад ногі кладу яму зброю, тлумачу, што не выйдзем з хаты, пакуль дзед не прывядзе партызан, і засынаем мярцвецкім сном. Будзяць нас партызаны. Трапіў у брыгаду імя Ракасоўскага, паўгода ваяваў у ёй...**

**— Ну і будзе ж нам пра што гаварыць!**

**— думаю ўслых аб асалодзе, якая нас чакае.**

**— Заўтра адпраўляюць нас у Маскву...**

**— віпавата ўстаўляе сябра.**

**— Ужо-о?!**

**— Ага. Учора выдалі новае адзенне.**

**Цэлую ноч з ім успамінаем свае прыгоды, дзелімся ўражаннямі.**

**Раніцой са штаба да гумен падаюць з дзесяць магутных студэбекераў. З паўтысячы немцаў, французаў, бельгійцаў, што былі ў беларускіх партызанах, запаўняюць машыны. У адзін кузаў пацсаджваю і свайго Рыхарда. Праводжу з зайздрасцю: сам-то яшчэ ў Маскве не быў!**

**ПРАЦЯГ БУДЗЕ**

# КІНО

**Праграма**

**на 26—31. VII. 1966 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**

„Spacer po linie" (angl.), 26—27. „Szkarłatne godło odwagi" (USA), 28—29. „Miłość blondynki" (czeski), 30—31.

**Кляшчэлі**

„Spotkanie na przeprawie" (radz.), 26—27. „Sąd" (radz.), 28—29. „Lęk" (czeski), 30—31.

**Нарва**

„Pingwin" (polski), „Człowiek z przeszłością" (radz.), 27—31.

**Нараўка**

„Jest taki chłopak" (radz.), „Koniec naszego świata" (pol.), 27—31.

**Чыжы**

„Droga przez cmentarz" (radziecki), „Dwója z wychowania" (radz.), 27—31.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Ostatni lot" (radz.), „Winda towarowa" (franc.), 27—31.

**Орля**

„Ameryka, Ameryka" (USA), „Ewa A-5126" (węgierski), 27—31.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Cisza, na sali operacja" (radziecki), „Sposób bycia" (pol.), 27—31.

**Міхалова**

„Błękitny krzyż" (polski), 26—27. „Tajemnica szyfru" (rumuński), 28—29. „Giuseppe w Warszawie" (polski), 30—31.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Kapral i inni" (franc.), 26—27. „Jo-jo" (franc.), 28—29. „Tak" (węgierski), 30—31.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Tanganica" (radz.), 26—27. „Pożegnania" (polski), 28—29. „Siódmy przysięgły" (franc.), 30—31.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**

„Komiczny świat Harolda Loyda" (USA), „Manekin Pis" (holenderski), 30—31.

НІВА

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok 1 Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

Nakład 5458. Błtk D-3

# НІЎКА

## КРЫТЫК

«Я ім пакажу, — падумаў ён. — Я ім усім зараз пакажу. Яны ў мяне паскачуць!

Перад усім мне вядома і я не магу змаўчаць аб тым, што Новак ужо двойчы ні за што атрымаў прыбаўку да зарплаты. Потым скажу, што ў нас зусім не прытрымліваюць тэхнікі бяспечнасці. Вінаваты Мацерна. А што датычыць Багачэка, дык гэта закончаны жулік: сам выпісвае сабе камандзіроўкі і ездзіць у Карлштэйн па яблыкі. Прэміі раздзяляліся незаконна: усім вядома, што Кучэра быў хворы, а прэмію атрымаў...»

Поўны адвагі і самых высакародных імкненняў, ён усё гэта выпісаў на ліст паперы. А потым задумаўся.

«Бадай што Новака не варта ўспамінаць. Ён тады мяне выручыў, калі былі непрыемнасці з перападлікам. Было б не па-таварыску зараз яго тапіць».

Новак выкраслены.

«Тэхніка бяспечнасці... Мацерна... Няёмка, колькі разоў бывалі ў Мацерны ў госцях, у яго такі надзвычайны арэхавы лікёр... Потым ён жа незаменны партнёр у прэферанс. Уласна кажучы, правілаў тэхнікі бяспечнасці нідзе не выконваюць. Мацерну выкраслю, няёмка абрушвацца на яго так люта».

Мацерна выкраслены.

«Цяпер Багачэк з гэтымі паездкамі ў Карлштэйн. Непрыемная справа... Уласна, ён і мне прывёз мяшок яблык. За бясцэнак. Ці нават зусім задарма. Па сутнасці, Багачэк нядрэнны чалавек, проста яго абставіны прымусілі. Нельга чалавека ў такіх выпадках судзіць вельмі востра».

І выкрэсліў Багачэка.

«Але вось Кучэра... Праўду кажучы, то прэміі ў нас жа заўсёды так раздзяляліся. Зразумела, гэта не паводле правілаў, але ж грошы і хвораму спатрэбяцца. Яшчэ захварэеш, і цябе таксама абмінуць прэміяй».

І выкрэсліў Кучэру.

Потым сядзеў і думаў: «Я толькі ведаю пра людзей, што як толькі прыадкрыю рот, палову супрацоўнікаў трэба будзе звольніць. Дык не, лепш ужо я памаўчу. Ну, а наогул жа крытыкаваць можна і трэба. Хіба хто-небудзь з гэтым спрачаецца?»

Іржы Марэк
Чэхаславакія

### КУРЫНЫ СМЕХ

*Калі Лісу за хвост*
*спаймалі, —*
*З яе смяяцца*
*й куры сталі.*

СЫМОН БЛАТУН

### У ГОРАДЗЕ

Вось яму добра, нічога ў яго агародзе не ўрадзіла.

### НАВОЧНАЯ АГІТАЦЫЯ

— Бачыш, сынок, я за цябе мушу выпіваць рыбі жыр.

### СТАРЫ, ЯК МАЛЫ

— Сёння мінае 18250 дзён з таго часу, калі я пачаў шкадаваць таго, што з табою ажаніўся...

### СУПОЛКА

— Памятай, Азар, ты «падрываеш»гэту з права, а я гэту злева.

### САЛІСТ

*Суддзя: — Якая ваша прафесія?*
*Падсудны: — Я саліст.*
*Суддзя: — І дзе спяваеце?*
*Падсудны: — Я не спяваю. Я салю капусту, гуркі і памідоры.*

### КАМАР
*(Байка)*

*На лістку сядзіць Камар,*
*У яго надзьмуты твар.*
*З пыхай думае Камар:*
*— Вось дудар я, дык дудар!*
*А каб зніклі Камары, —*
*Хто іграў бы ў бары? —*
*Ёсць такія Камары*
*І ў мастацкім у бары:*
*Ледзь падаў пісклявы голас,*
*А ўжо думае, што Колас.*

ВАСІЛЬ КАРПЕЧАНКА

### СЕЛЯНІН І ЦАН

*Селянін, які прыехаў у горад і ўбачыў на вуліцы натоўп людзей, спытаў у прахожага:*
*— Пане, скажыце, што там сталася?*
*— Карова знесла яйцо, — адказаў той.*
*— Ага, дык з таго яйца напэўна вылупіцца такое цяля, як вы, пане! — сказаў селянін і пайшоў далей.*

### АДКАЗ

*— Тата, што людзі мелі перад адкрыццём тэлевізіі?*
*— Святы спакой.*

### СУВЯЗІ

*— Мая дачка вялікі чалавек: з ёю падтрымліваюць сувязь усе гарады і вёскі.*
*— Няўжо? А кім яна працуе?*
*— Тэлефаністкай!*

### ХАРАКТЭРНАЯ РЫСА

*— Чаму цябе недалюблівае нашваладар? — спыталіся ў аднаго філосафа.*
*— Таму што валадары ніколі не любяць тых, хто разумнейшы за іх, — адказаў ён.*
*— Гэта характэрная рыса ўсіх валадароў.*

### У КАФЭ

*Кліент паклікаў афіцыянта і спытаў у яго:*
*— Чаму вы падаеце такія маленькія порцыі?*
*— А вы паспрабуйце з'есці хоць бы гэта.*

### ДУМКІ ЯСЕВІ АПАЛОНІКА

*Кожны злодзей абкрадае сам сябе з добрага сумлення...*

*

*Мераю людскога розуму з'яўляюцца думкі...*

*

*Найглыбейшы калодзеж мае сваё дно, а самы плыткі чалавек — сваю мараль...*

*

*Крук крука нават у цемры пазнае па краканню і таму заўсёды дагаворыцца...*

*

*Найбяднейшым чалавекам з'яўляецца той, хто страціў надзею ў чалавека...*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Зінаіды Карпюк з Барысаўкі, Гайнаўскага павета, і Надзі Семянюк, Ніны Кавальчук, Ніны Іванюк і Марысі Касцючук з Клейнікаў, Гайнаўскага павета змяшчаем песню п. з.

## ПОЛЮБИЛ МОРЯК ВОЛЖАНКУ

*Полюбил волжанку молодой моряк.*
*У волжанки щёки алые горят,*
*А во взгляде — моря голубой прибой,*
*В целом свете, в целом свете,*
*В целом свете нету девушки такой.*

*А моряк был тоже парень всем хорош,*
*Да любовь волжанки просто не возьмёшь.*
*По душе моряк ей, только для него*
*Не открыла, не открыла,*
*Не открыла тайны сердца своего.*

*А теперь уехал далеко на юг*
*Бравый и весёлый черноокий друг.*
*Только знает Волга, быстрая река,*
*Как волжанка, как волжанка,*
*Как волжанка любит парня - моряка. (2 раза)*